„NIWA“ TYGODNIK BIAŁORUSKI – CENA 60 gr.



# Ніва



№ 18 (62) БЕЛАСТОК, 5 МАЯ 1957 г. ГОД II

## Да студэнцкай моладзі

Набліжаецца студэнцкае лета. Калі міне гарачы час — экзамены, дружная студэнцкая сям'я расцярушыцца па ўсёй краіне. Адны паедуць у дамы адпачынку, другія накіруюцца пад бацькоўскія стрэхі, трэція, з дыпломам у кішэні, пачнуць шукаць працы.

Варта, каб студэнты — беларусы ўжо цяпер падумалі аб сваім удзеле ў арганізацыі грамадска - культурнага жыцця сярод беларускага насельніцтва і аб прапагандзе беларускай культуры і беларуска - польскіх традыцыяў у польскім асяроддзі.

У адным, як і ў другім напрамку гэтай працы, маем вялікія цяжкасці, таму, што часта нехапае ініцыятыўнага таварыша які-б крануў працу з месца. Гэта павінна зрабіць наша інтэлігенцыя, а асабліва студэнты, якія ад вякоў у кожным народзе з'яўляюцца самай энергічнай ініцыятыўнай часткай.

Няма патрэбы гаварыць нашым студэнтам аб адсталасці нашых вёсак. Тыя, што вучацца ў Заходняй Польшчы вельмі добра ўяўляюць сабе, якія ў нас аблогі, калі параўнаем Беласточчыну і напрыклад Пазнаньскае ваяводства. Аж надта вялікія маем аблогі, — так гаспадарчыя, як і культурныя. Ды-й яны заўсёды разам ідуць. Дзе гаспадарка дрэнна пастаўлена, там няма чаго і гаварыць аб культуры, там яе не будзе.

Таму каб узняць і культырны ўзровень нашых вёсак нельга вузка падыходзіць да культуры. А ў нас, як-жа часта, калі гаворыцца аб развіцці культуры на вёсцы, бачыцца толькі хор, або драматычны гурток. Застаюцца ў цені падставовыя меркі культуры — умовы жыцця селяніна.

Дапамагчы селяніну павысіць жыццёвы ўзровень, — галоўны напрамак культурнай дзейнасці на вёсцы.

Аб гэтым павінны падумаць студэнты, якія едуць на канікулы да бацькоў, як і выпускнікі вышэйшых і сярэдніх навучальных устаноў, якія ў гэтым годзе распачнуць самастойную працу.

Варта, каб гэтыя астатнія не расцярушваліся па ўсёй краіне, а вярталіся ў родныя мясцовасці, каб супольна з намі маглі будаваць сваю будучыню сярод таго грамадства, з якога вышлі.



*Вясна на кааператыўным полі.* *Фото — Лясоцкі.*

---

Алесь Трајаноўскі

## Творчасць многіх пакаленняў

*«Шмат хараства і глыбокага зместу заложана ў беларускай народнай творчасці. Шмат мудрасці, трывогі і радасці, святла і горычы, шчырай любві і праўды захавала ў сваіх скарбах беларуская народная песня. Яна зарадзілася ў далёкія часы гісторыі народа, разам з ім расла, мацнела і развівалася, пераказваючы мастацкімі вобразамі долю і нядолю многіх пакаленняў, адлюстроўваючы доўгі гістарычны шлях».*

Так пісаў Рыгор Раманавіч Шырма ў уступным артыкуле да свайго зборніка «Беларускія народныя песні, загадкі і прыказкі», выдадзеным у Мінску ў 1947 годзе. Ці варта гаварыць аб праўдзівасці і глыбокай асэнсаванасці гэтых слоў, якія датычаць у першую чаргу, сутнасці здабыткаў беларускай народнай песеннай творчасці, здабыткаў, якія на працягу многіх стагоддзяў накапляў, і клапатліва зберагаў цэлы шэраг пакаленняў. І сапраўды, важнейшыя падзеі ў гісторыі і жыцці беларускага народа, быт і нацыянальныя асаблівасці знайшлі сваё шырокае выражэнне і адлюстраванне ў паэтычнай і песеннай народнай творчасці.

З незвычайнай мужнасцю наш народ доўгія стагоддзі адстойваў сваю культуру, сваю мову, сваю чалавечую годнасць ад шматлікіх ворагаў. Яго не змаглі задушыць ні польскія паны, ні царскія сатрапы, ні зграі нямецкіх, татарскіх і іншых захопнікаў. Яго не прымусілі забыць родную мову ні праследаванні, ні крывавыя расправы, ні ярыя прапаведнікі каталіцтва і «єдіной, неделімой Русі». Гэтаму нямала дапамагала песня. Нянавісць да прыгнятальнікаў, імкненне, думка аб вызваленні роднага краю ад чужынцаў, праслаўленне барацьбы за нацыянальнае і соцыяльнае вызваленне складалі пафас народнай песні, яе жыватворчую сілу.

Народная песенная творчасць нашага народу адлюстроўвае шматбаковыя рысы нацыянальнага характару. Песні заўсёды былі непарыўна звязаны з усім укладам народнага быту. Вось чаму беларуская народная песня. творчасць простага народу, карыстаецца на працягу стагоддзяў пашанай і любоўю сярод многіх пакаленняў. Гэтая творчасць адыграла велізарную ролю ў фармаванні нацыянальнай культуры. У ёй, ва ўмовах чужацкага гаспадаравання, была замацавана і атрымала далейшы развой народная мова.

«Толькі там з'яўлялася багатая народная паэзія, — пісаў рускі рэвалюцыйны дэмакрат Чарнышэўскі, — дзе маса народу хвалявалася моцнымі і высокароднымі пачуццямі, дзе звяршаліся сілаю народу вялікія падзеі». А вялікіх падзей у гісторыі беларускага народу было нямала. Змаганне з крыжацкімі і татарскімі наездамі, казацкія паўстанні супраць прыгнёту панскай Польшчы, паўстанне Кастуся Каліноўскага і шэраг іншых супраць рускага самаўладства, — адным словам, гісторыя Беларусі, — гэта гісторыя барацьбы народа за нацыянальнае вызваленне, за лепшы лёс.

У глыбокай старажытнасці ўзнікла беларуская народная песня. З даўніх часоў дайшлі да нас быліны пра Іллю Мурамца, Дабрыню Нікіціча, Алёшу Паповіча і іншыя. Унаследаваўшы лепшыя і найбольш характэрныя ўсходнеславянскія матывы, народная песня пасля сфармавання беларускай мовы ў XIV стагоддзі працягвала развівацца, ахопліваючы ўсё большы шэраг з'яў, прайшла праз стагоддзі, не трацячы ні сваёй яскравасці, ні сваёй самабытнасці, сілы, грацыі.

«У народнай беларускай песні, — пісаў Рыгор Раманавіч Шырма, — адбіваюцца прыгожыя краявіды Беларусі з яе тысячамі рэк і азёр, з яе дрымучымі пушчамі, сасновымі барамі, «зімненькай крынічанькай», з салаўінымі спевамі тады, калі «ці на свет світае, ці на зоры займае». Яна ахоплівае ўсе бакі побыту чалавека: і цяжкую працу ў часе залатога жніва, і маладую шчырасць кахання, і глыбокія грамадскія пачуцці. Яна захавала таксама шмат чаго з агульнаславянскіх матываў і тэм, яна па-свойму перапрацавала тэмы, якія прыйшлі ў яе, як уплывы суседніх славянскіх народаў, і гэта зусім нармальна, бо творчасць кожнага народа адчувае ўплыў суседніх культур і ў сваю чаргу ўплывае на іх. Такія багацці беларускай народнай творчасці, створанай працоўнымі масамі».

Шырокае развіццё і пашырэнне атрымала народная песня ў XIV—XV стагоддзях. Нягледзячы на праследванні з боку царквы, якая ўсімі сродкамі імкнулася выкараніць астаткі паганства, песенная творчасць працягвала свой шлях наперад, суправаджаючы гадавы круг земляробчых абрадаў і бытавыя святы. Такім чынам узніклі абрадавыя песні вяснянкі, юраўскія, купальскія і пятроўскія, сёмушныя, жніўныя, песні яравога жніва або восеньскія, калядныя і навагоднія, вясельныя і хрэсьбінныя, гэта значыць песні, звязаныя з вызначанымі порамі году, сельскагаспадарчымі работамі, рознымі абрадамі і звычаямі. Сярод іх ёсць цудоўныя ўзоры песеннага майстэрства.

Адны з гэтых песняў выконваліся падчас адпаведных свят, іншыя адпавядалі кругу сельскагаспадарчых работ і змене пораў года, і таму выконваліся ў паслядоўнасці гэтых перыядаў.

Як вядома, у старажытных славян услед за Качуном, самым кароткім днём года, настаюць святы, на якія перайшла рымская назва «каляды» (calendae).

У калядныя абрады ўваходзілі вячэра сярод снапоў, кучаў хлеба, варажба, пажаданні ўраджаю, запрашэнне марозу на куццю. Прыход вясны звязан з масляніцай, з вясновымі святамі і вясновымі гульнямі. Яны пераходзяць у «зялёнае свята» — Тройцу, або Сёмуху, калі вясна сустракаецца з летам. Гэта аднachасова і свята расквi-

(Працяг на стар. 2)

ШТОТЫДНЁВІК БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА






ЯНКА КУПАЛА.

## Святая праўда

«Ох, колькі гора з водкі ў нас!
Хто з ёй не стаў гол, як той кол?»
Сказаў з павагай Апанас,
Поўкварты ставячы на стол.

«Святая праўда, мой кумок!».
З павагай Юрка патакнуў,
І, ляк скідаючы на бок,
Другую, кварту, адаткнуў.

## Дасціпнасць

Грамадзянін пытае ў падростка:

— Скажыце, малады чалавек, дзе тут знаходзіцца гарадская рада?

— Гэта кожны асёл ведае.

— Вось таму-ж я ў вас і пытаюся.

### Не адрозніў

Жонка аднаго пана, які паляваў у Афрыцы, паказвае свайму знаёмаму фотаздымкі, зробленыя ў часе палявання.

— А гэта вось мой муж, сфатаграфаваны разам з забітай ім малпай, — кажа яна.

— Цудоўна, вельмі цудоўна! А каторы з іх ваш муж?

### На забаве

— У вас цудоўная зачоска! Вы мабыць шмат клапоціцеся аб галаве?

— Так, павінна прызнацца, галава — мае слабое мейсца.

### Дурны гадзіннік

Муж прыйшоў дамоў позна і п'янаваты. Жонка прачнуўшыся пытаецца:

— Колькі часу?

— Першая гадзіна, — адказвае муж.

У гэты час гадзіннік прабіў шэсць.

— Вось-жа дурны гадзіннік!—абурыўся муж. — Мы-ж і так ведаем, што гадзіна. Навошта паўтараць шэсць разоў?

А. Тр.




— Замужняя ці не?
— Замужняя.
— То пачакайце на наступны верталёт.

## Знаходлівасць

Вучань шаўца прышоў у краму і кажа:

— Дайце, калі ласка, яшчэ чвэрць кілограма каўбасы, але такой-жа самай нясвежай, як і ў мінулы раз.

— Але чаму-ж канешне такой самай?—пытае крамніца.

— Бо майстар сказаў, што калі яшчэ раз прынясеш такую смярдзячую каўбасу, дык сам з'ясі.

### Найлепшы сродак

Доктар: — Вашаму мужу патрэбны спакой і цішыня. Вось парашок на сон.

Жонка: — А калі гэта яму даваць?

Доктар: — Яму не трэба. Парашок для вас.

### У рэстаране

Наведвальнік: (з абуранасцю) — Скажыце, калі ласка, што гэта ў мяне ў супе?

Афіцыянтка: — Які вы дзіўны чалавек! Ці-ж я магу адрозніць адну казюльку ад другой.

### Успаміны

— На фронце, калісьці як пачну рэзаць, крышыць, сячы — аж дым ідзе!

— Вы, напэўна кавалерыстам былі?

— Ды не! — кухарам.



*Без слоў.*

### Народныя пагаворкі

**Хто дарогу кружыць ніколі не тужыць, а хто прастуе, у дома не начуе**

**Без даводу войска гіне.**

**Хто чаго не дазнаў той не разумее.**

## МАЛАДЫ ХЛОПЧЭ

З энергіяй

Ад Алесі Шырмы, в. Шакуны, Пружанскага п., зап. Г. Шырма! Гарм. К. М. Галкоўскага







«— Малады хлопчэ, я цябе даўно знаю, —
«Ты мяне бярэш — я пасагу ня маю.
«— Малада дзеўко, мне твой пасаг ня трэба,
«Ты мне хараша, як зорачка і з неба!
«— Сягоння кажаш, як зорачка ясная,
«А заўтра скажаш: доленька несчасная!»
Ой зарыкалі каркованькі ў аборы,
Падходзіць маці да новае каморы:
«— Уставай, невестко, ой бадай ты ня ўстала,
«Выганяй пасаг, што ад бацькі нагнала!
«— А што, міленькі, ой ці я не казала,
«Ужо твая маці мне пасагам дагнала!
«Не цяпер, маці, пасагам даганяці,
«Ой было-ж табе сіротанькі ня браці;
«Ой было браці ад роду багатага,
«Нагнала-б табе тавару рагатага;
«Ой было браці ад айца і ад маткі,
«То былі-б табе усякія дастаткі!».

## ЗАГАДКІ

Стаяць дзяды над вадою і ківаюць барадою. *(Ачарот)*

Адкіну палена, адкіну другое і скіну крывое, вывяду жывое. *(Аглобля, дуга і конь).*

Дзюравая плахта ўсё поле пакрые. *(Барана)*

Без рук, без ног, без чэрава ўзлез на дзерава. *(Хмель).*

Сам пан у зелені, яго дзеці ў чырвані. *(Бурак)*

### Развязка красворда з 14 нумара «Нівы»

ПА ВЕРТЫКАЛІ:

1. Марак, 2. цыган, 3. скнара, 4. Платон, 10. паводка, 11. арыйскі, 13. барыш, 14. Расія, 15. ямнік, 16. Токіо, 22. натура, 24. лётчык, 25. лука, 26. якар, 30. Анды, 31. Ніва.

ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:

5. Ікар, 6. Галя, 7. абжора, 8. парк, 9. ноты, 10. пава, 12. выбар, 15. янтар, 17. акварыум, 18. паруе, 19. наказ, 20. Індыйскі, 23. клоўн, 25. Латвія, 27. стаў, 28. каты, 29. каліна, 32. аркан, 33. Іртыш.

Кніжныя ўзнагароды атрымалі:

1. Ніна Шатыловіч — Варшава.
2. Янка Кандрацюк — Бельск. Падляскі.
3. Алесь Лукашук — Катовіцы.
4. Паўлюк Анішчык — Вроцлаў.
5. Уладзімір Касцючук — Клейнікі, Гайнаўскі павет.
6. Васіль Сухадольскі — Семятычы.
7. Францішак Фрашэвіч — Беласток.
8. Надзя Хілімонюк — Ольштын.
9. Барыс Рудак — Ліда, БССР.
10. Галя Савіцкая — Элк.

Узнагароды высылаем поштай.

Р.

## ПРЫЯЦЕЛЬ

Людзі ў нас, вядома, усялякія і адносіны к Савецкай Беларусі не ва ўсіх аднолькавыя. Мой сябра, як убачыць карту БССР — праўядзе пальцам па сіняй істужцы Дняпра, затрымаецца пры назве «Лоеў» і пачынае расказваць аб утульных доміках на беразе ракі, аб зялёным лесе за сялібай і так расказвае, што зусім заслухацца можна.

Але ёсць і другія грамадзяне разлюбаваны ў Беларусі па самыя вушы. Ночку ў сне бачаць яны візу на паездку ў Беларусь.

Гэткі грамадзянін на мытным пункце адкрывае свой чамадан набіты ўсялякімі звіткамі, а здзіўлены мытнік пытае: — Што гэта, універсальны магазін?

— Гэта падаркі — тлумачыцца грамадзянін. — Гэты звітак для брата, а гэты для сястры, гэты для жонкі брата, а гэты побач для мужа сястры. А вось, чатыры звіткі для дзяцей брата, а наступныя пяць для дзяцей сястры. Гэтыя вялікія звіткі — гэта падаркі для бабулі і дзядуля і, як бачыце, грамадзянін начальнік, аказваецца, што я нічога лішнега не вязу.

— Адзін звітак аднака-ж лішні.

Грамадзянін скромна апускае вочы, быццам дзяўчына, якую першы раз пацалавалі і саромліва шэпча: — «Гэта для вас».

Потым выбягае з мытніцы, як птушка з клеткі. Праз месяц ён вяртаецца ды ізноў сустракаецца з мытнікам.

— Ну, як сваякі, жывы, здаровы? — цікавіцца мытнік.

— Дзякую, жывуць, не кашляюць, — адказвае грамадзянін і падае вопіс рэчаў, тлумачачы: — матацыкл брат падараваў, у мяне раматус у локці — хадзіць не магу. Радыёапарат сястра дала на памяць, баян бабулька падаравала для майго сыночка, ён вельмі музыкальны хлапчук, магнітафон для дачкі — яна спявае.

— Паслухайце, тут і піяніна запісана — дадае яшчэ мытнік.

— Для жонкі, неабходна для рэпетыцый — яна рыхтуецца выступаць у оперы...

— Выбачайце, перарывае мытнік — у пашпарце напісана «нежанаты».

— Зусім правільна, мы яшчэ шлюб не зарэгістравалі.

— Значыцца музыкальны сынок і магнітафонная дочка авансам нарадзіліся?

Грамадзянін вяне як прытоптаная незабудка, а мытнік думае: — Барані нас Божа ад падобных прыяцеляў.

*Дзядзька Лявонь*

Галоўны рэдактар ГЕОРГІ ВАЛКАВЫЦКІ

„NIWA" Organ Białoruskiego Towarzystwa Społeczno - Kulturalnego w Białymstoku. Adres redakcji: Białystok, ul. Manifestu Lipcowego 25, tel. 25-89. Warunki prenumeraty: miesięczna — 2.40 zł, kwartalna — 7.20 zł, półroczna 14.40, roczna 28.80. Prenumeratę przyjmują wszystkie urzędy pocztowe i listonosze. Wydawnictwo: RSW „Prasa". Prenumeratę ze zleceniem wysyłki zagranicę przyjmuje PKWZ „Ruch" Warszawa. Należność wpłacać na konto PKO I-6-100024 Warszawa. Cena prenumeraty z wysyłką zagranicę wynosi: kwartalnie 10,15 zł, półrocznie 20,30 zł, rocznie 40,60 zł. Druk Białostockie Zakłady Graficzne, Nakł. 5000 T-10